ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 49(5231)
Чацвер,
3 мая
2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Школа — вучыць, а сям'я — выхоўвае?

**Ігар Уладзіміравіч Крыванос, дырэктар сярэдняй школы № 96 Мінска:**

— На нашым сходзе патрэбна ўзняць вельмі балючае і надзённае пытанне аб размежаванні адказнасці школы і сям'і ў стаўленні да дзіцяці. Апошнім часам школе ўсё часцей даводзіцца займацца бацькоўскімі абавязкамі. Бо многія дарослыя іх проста ігнаруюць. Яны не кормяць дзіця, не сочаць за тым, як яно апранаецца, ім усё роўна, дзе яно бавіць сваю вольную гадзіну, і зразумела, што ім няма ніякай справы да школы. Тут у іх свой падыход — мы вам дзіця аддалі, а далей вы ўжо самі яго даглядайце. А мы ў вас яшчэ за гэта і спытаем! У школу такія бацькі прыходзяць звычайна прасіць, каб мы дапамаглі ім схаваць іх жа роднае дзіця куды-небудзь далей ад вачэй — у спецустанову. І ў гэтым пытанні яны вельмі ўпартыя.

Спрабуем мы змагацца з безадказнымі бацькамі праз міліцыю. Выніку зноў няма. Яны і туды не з'яўляюцца, і штрафамі іх не запалохаеш.

У нашым Фрунзенскім раёне заведзена паведамляць на прадпрыемства, дзе працуюць гора-бацькі. І вось на дзесяць пісьмаў мы атрымалі толькі адзін адказ, што такая жанчына там ужо не працуе і таму мер ніякіх яны прыняць не могуць. Астатнія ўвогуле нас праігнаравалі. А мы ж звярталіся да паважаных людзей — галоўнага ўрача другой бальніцы, да генеральнага дырэктара "Атланта". Іх, напэўна, не цікавяць ні асабістае жыццё іх працаўнікоў, ні праблемы школы ў тым ліку.

Я лічу, што гэта не наша школьная праблема, яна — дзяржаўнага маштабу. Але ж хто, калі не настаўнік (з якога ўсе пытаюць за лёс дзіцяці), загаворыць пра яе.

Патрэбна неадкладна прыняць закон у адносінах да нядобрасумленных бацькоў. У выпадку, калі бацька ці маці ўхіляюцца ад сваіх абавязкаў, яны абкладаюцца вялікім штрафам. А калектыў прадпрыемства павінен такога працаўніка прысароміць, прымусіць яго клапаціцца пра сваіх дзяцей. Бацькоў жа, чые дзеці добра займаюцца і добра сябе паводзяць, наадварот, усяляк ушаноўваць, заахвочваць.

Бацькі, пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, павінны кампенсаваць дзяржаве ўсе расходы за ўтрыманне іх дзяцей у інтэрнатах. А то атрымліваецца, што мы ў іх забіраем дзяцей, а ім яшчэ прывольней жывецца.

Няма сэнсу пакідаць вучня на другі год у адным класе. Мы ж гэта праходзілі ўжо... Трэба выдаваць ім дакумент асобага ўзору — праслухаў. Пры жаданні ён заўсёды зможа пераздаць экзамены і атрымаць новы атэстат.

І яшчэ б я сказаў з трыбуны, каб не турбавалі школу лішнімі праверкамі. Нас цяпер не правярае толькі лянівы. А так кожны дзень — то пажарнікі, то міліцыя, то санстанцыя, то пракуратура. Ёсць каму нас правяраць. І мы чакаем іх. Усе ж астатнія ў школу павінны ісці з дапамогай.

Падрыхтавала
Святлана КІРСАНАВА.

## І зноў пра класных дам

Класны кіраўнік ёсць у кожным класе, але ён яшчэ вядзе свой прадмет, мае тыя ж сямейныя праблемы, што і любы іншы чалавек. Як можа такі перагружаны педагог выхоўваць, падтрымліваць сваіх вучняў, клапаціцца пра іх пасяховасць, ажыццяўляць пастаянную сувязь з сем'ямі, праводзіць перыядычна бацькоўскія сходы, а з дзецьмі — яшчэ і пазакласную работу?! А сумесныя паходы ў кіно, у тэатр, на выставы?!

Раней былі класныя дамы (ідэя выдатная, але, на жаль, у наш час цяжка ажыццявімая). Яны не вялі прадметаў, займаліся выключна выхаваннем, наведвалі сем'і, вучылі добрым манерам, этыкету.

Мець сёння такіх спецыялістаў — уляціць у капеечку, затое зберажэ многіх дзяцей ад дрэнных учынкаў, наркотыкаў, разбэшчанасці.

Як магло здарыцца, што ў рэспубліцы так шмат непаўналетніх злачынцаў? Адна з прычын гэтай "эпідэміі" — бескантрольнасць вольнага часу дзіцяці. Звярнуць на няправільны шлях даволі лёгка. Гэтаму спрыяюць і няўвага бацькоў, і абыякавасць настаўнікаў, і дурныя кампаніі, якія ёсць у любой школе. Разважаючы пра гэта, яшчэ раз пераконваюся, што праблема занятасці дзяцей і падлеткаў застаецца вельмі, вельмі складанай. Мы заўважаем, што ў апошнія гады знізілася цікавасць дзяцей да чытання, кіно, тэатра, спорту. Наведванне тэатра, цырка многім не па кішэні. З'явіліся платныя гурткі, але што ж рабіць тым, у каго бацькі зарабляюць толькі на кватплату і бедны стол?..

Наша бедная школа мае патрэбу ў фундатарстве, і гэта можна ажыццявіць з дапамогай Саветаў, якія дапамаглі б замацаваць фундатараў за кожнай школай. Дзецям неабходны клопат і ўвага, пра што мы не маем права забываць.

Святлана СМОЛЬСКАЯ,
ветэран
педагагічнай працы.



Вельмі цікава і змястоўна праводзіць заняткі з вучнямі Запрудскай базавай школы Кобрынскага раёна настаўніца рускай мовы і літаратуры Надзея Аляксееўна Хмялеўская.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

Дзяржаўнае пытанне

## Лёс нацыянальнай адукацыі вырашаецца сёння ў авальнай зале

***У суботу, 28 красавіка, у Доме ўрада адбылося пашыранае пасяджэнне Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе з удзелам кіраўніцтва Палаты прадстаўнікоў, старшынь і дэпутатаў профільных камісій Палаты прадстаўнікоў, намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, членаў урада. На пасяджэнні камісіі ішла размова аб выпрацоўцы сумесных дзеянняў парламентарыяў і ўрада Рэспублікі Беларусь пры разглядзе ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ўнесенага Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь праекта закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі" (у аўтарскай рэдакцыі і рэдакцыі галаўной камісіі).***

Базавы Закон аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь быў прыняты Вярхоўным Саветам XII склікання ў 1991 годзе. І з гэтым законам сістэма адукацыі не толькі выстаяла, але і развівалася. Але цяпер ён вымагае істотных змяненняў і дапаўненяў, накіраваных на прывядзенне ў адпаведнасць з сучаснымі патрабаваннямі значнай часткі закладзеных у яго прававых нормаў. Патрэбна іншае заканадаўчае рэгуляванне нацыянальнай сістэмы адукацыі ва ўмовах яе рэфармавання.

Праект такога заканадаўчага акта быў распрацаваны ў мінулым годзе і ў красавіку 2000 года ўнесены ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Работа над законапраектам <"Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь"> вядзецца Пастаяннай камісіяй па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе з моманту яе арганізацыі. Уважліва азнаёміўшыся з праектам, члены камісіі напачатку меркавалі адхіліць праект, бо не ўбачылі ў ім ніякіх пераваг у параўнанні з цяперашнім законам. Наадварот, на думку парламентарыяў, прыняцце праекта ў прадстаўленым выглядзе прывяло б да пагаршэння нават цяперашняга, далёка не лепшага стану ў сістэме адукацыі. Аднак пасля доўгіх роздумаў і спрэчак дэпутаты камісіі ўсё ж вырашылі вынесці праект закона аб адукацыі ў аўтарскай рэдакцыі на першае чытанне ў Палату прадстаўнікоў і паралельна весці работу ў камісіі па яго ўдасканаленні з улікам прапаноў і заўваг іншых дэпутатаў, педагагічных калектываў, лісты якіх працягваюць паступаць у камісію.

На суботнім пасяджэнні ў выступленні кожнага дэпутата гучала занепакоенасць недастатковай фінансавай падтрымкай з боку дзяржавы сістэмы нацыянальнай адукацыі. Намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, кіраўнік рабочай групы пры камісіі па дапрацоўцы законапраекта аб адукацыі Уладзімір Здановіч у сваім выступленні назваў лічбы, якія яскрава характарызуюць катастрофу ў адукацыйнай сферы. Так, калі ў 1997 годзе расходы на адукацыю складалі 6,6 працэнта ад унутранага валавага прадукта, у 1998 — 6,9 працэнта, у 1999 — 6 працэнтаў, у 2000 — 5,65 працэнта, то сёлета ў рэспубліканскім бюджэце на адукацыю запланавана толькі 5,5 працэнта ад унутранага валавага прадукта. Калі ў 1996 годзе сярэдняя зарплата па адукацыйнай галіне складала 74 працэнты ад сярэдняй па прамысловасці, у 1997 — 69 працэнтаў, у 1998 — 64 працэнты, у 1999 — 59 працэнтаў, то ў асобныя месяцы 2000 года яна даходзіла да 46 працэнтаў.

Цяперашняе заканадаўства, якое гарантуе аплату педработнікам не ніжэй узроўню работнікаў у прамысловасці, не выконваецца. І нягледзячы на крайне нізкую зарплату работнікаў адукацыі, што працуюць у сельскай мясцовасці, адменены кампенсацыі і датацыі, якія педагогі атрымлівалі за жыллё і камунальныя паслугі (гэта льгота дзейнічала ва ўсе гады савецкай улады, але прыпынена Указам Прэзідэнта ў 1995 годзе).

Каля 40 працэнтаў выпускнікоў ВНУ не прыбывае да месцаў працы.

Не выконваецца заканадаўства аб працы Рэспублікі Беларусь (Канстытуцыя і Працоўны кодэкс) у частцы кантролю за ўстанаўленнем працоўнага тыдня, які не перавышае 40 гадзін. Асноўная маса настаўнікаў працуе на 1,5 — 2 і больш ставак, а з улікам выхаваўчай работы і іншых нагрузак — па 10 і больш гадзін у дзень (50 — 60 гадзін на тыдзень).

Надзвычай нізкі ўзровень матэрыяльна-тэхнічнай базы навучальных устаноў. Не будуецца жыллё для маладых спецыялістаў сферы адукацыі, не выдзяляюцца льготныя крэдыты дзяржавы на гэтыя мэты.

Калі ў 1998 годзе было ўведзена 25 новых школ, у 1999 — 23, то ў 2000 — толькі 11, у тым ліку ў сельскай мясцовасці ўсяго чатыры школы. Пры гэтым 131 школьны аб'ект у краіне — даўгабуд (будуецца па 10 — 12 і больш гадоў).

Як паказвае сусветная практыка, кожная дзяржава ў прыярытэтным парадку падтрымлівае нацыянальную сістэму адукацыі з дзяржаўнага бюджэту на аснове ўстаноўленых і заканадаўча замацаваных дакладных нарматываў фінансавання, накіраваных не толькі на яе захаванне, але і на развіццё.

Наша краіна таксама ішла па гэтым шляху. І тады быў росквіт адукацыі, калі выдаткі на яе дасягалі 10 і больш працэнтаў ад нацыянальнага даходу. У тыя гады (канец 80-х) былі пабудаваны сотні школ, дашкольных і пазашкольных устаноў — сістэма адукацыі яшчэ дагэтуль трымаецца на той матэрыяльнай базе.

Разлікі паказваюць, што выдзеленых з бюджэту сродкаў на адукацыю ў 2001 годзе хопіць толькі на выжыванне сістэмы (пераважна на самую нізкую зарплату педагагічным работнікам), але не на яе развіццё.

Ва ўнесеным жа суб'ектам права ў Палату прадстаўнікоў праекце закона прававыя нормы, што рэгламентуюць пытанні дзяржаўнай падтрымкі адукацыі і прадастаўлення работнікам сферы адукацыі гарантый з боку дзяржавы, не ўзмоцнены, а, наадварот, выключаны.

Улічваючы такія абставіны, Пастаянная камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе правяла значную работу над праектам, яго экспертызу і разгляд ва ўсіх пастаянных дэпутацкіх камісіях Палаты прадстаўнікоў. Пасля аналізу, уліку і абагульнення шматлікіх паправак, заўваг і прапаноў дэпутатаў на шэраг яго артыкулаў і глаў рабочай групай пры галаўной камісіі падрыхтаваны праекты закона ў рэдакцыі камісіі, які прадстаўлены на разгляд і ўзгадненне Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Аднак спроба парламентарыяў уключыць у новы варыянт праекта ў рэдакцыі камісіі артыкулы 70 і 72 з удакладненнем іх нормаў, што забяспечваюць стабільнае фінансаванне сістэмы адукацыі (не менш за 10 працэнтаў УВП) і прадугледжваюць дастатковае матэрыяльнае ўзнагароджанне педагогаў за іх працу (памер сярэдняй заработнай платы не ніжэй за сярэдні ўзровень зарплаты работнікаў прамысловасці), не знаходзіць разумення з боку міністэрстваў эканомікі, фінансаў і працы. І хоць міністр адукацыі Васіль Стражаў назваў працэнт 5,5 ніжэйшай мяжой фінансавання сістэмы, за якой ужо пачнецца яе распад, чыноўнікі вышэй названых міністэрстваў выступаюць за тое, каб у будучым законе наогул не было ніякіх лічбаў. Парламентарыі ж настойваюць на тым, што дзяржава павінна дакладна і недвухсэнсоўна аб'явіць канкрэтныя паказчыкі ў галіне адукацыі і замацаваць іх на заканадаўчым узроўні.

Як бы там ні было, 3 мая Пастаянная камісія Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе выносіць праект закона аб адукацыі на абмеркаванне ў авальнай зале. І хутчэй за ўсё ён будзе прыняты парламентарыямі ў першым чытанні — на думку большасці, гэта адзіны варыянт руху да прыняцця закона, якога даўно чакае педагагічная грамадскасць.

А потым — будзе напружаная праца дэпутатаў па ўдасканаленні законапраекта. Каб прыняты ў другім чытанні закон паслужыў не толькі захаванню сістэмы нацыянальнай адукацыі, але і яе росквіту.

Галіна СІДАРОВІЧ.

Прэс-канферэнцыі

## Патрыётамі не нараджаюцца

***27 красавіка ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная праграме патрыятычнага выхавання і арганізаваная Міністэрствам адукацыі.***

Перад двума галоўнымі інстытутамі сацыялізацыі дзіцяці — сям'ёй і школай — заўсёды стаяла задача выхаваць кожнае дзіця сем'янінам, патрыётам, працаўніком. Да таго ж і рэформа школы, якая цяпер ідзе ў краіне, патрабуе павысіць выхаваўчы патэнцыял кожнай вучэбнай дысцыпліны. З гэтай мэтай у апошнія гады быў распрацаваны і зацверджаны шэраг дакументаў, якія тычацца выхавання школьнікаў, у тым ліку і Рэспубліканская праграма патрыятычнага выхавання дзяцей і моладзі, якая была распрацавана Міністэрствам адукацыі сумесна з Міністэрствам абароны, Дзяржкамітэтам па справах моладзі і іншымі ведамствамі, і зацверджана Саветам Міністраў 20.07.1998 г.

Выхаванне сапраўдных грамадзян краіны патрабуе сістэматычнай, штодзённай работы, і яна ў школах (і не толькі ў школах) вядзецца. Вялікую работу праводзіць Рэспубліканская асацыяцыя "Пошук", якая арганізуе вахты памяці, сумесныя летнікі патрыятычнага накірунку і шмат іншых цікавых і карысных спраў. Значны ўклад у патрыятычнае выхаванне моладзі, выкарыстоўваючы свае, мясцовыя матэрыялы, уносіць Усебеларуская экспедыцыя "Наш край" (цяпер праходзіць трэці этап гэтай экспедыцыі).

Штогод Міністэрства адукацыі разам з Мінабароны і Педагагічным таварыствам ладзіць канферэнцыю, прысвечаную патрыятычнаму выхаванню і падрыхтоўцы моладзі да службы ў арміі. Праводзяцца акцыі "Летапісы воінскіх аб'яднанняў і часцей", "Кастры партызанскай славы" і інш. Але, як падкрэсліў у сваім выступленні начальнік галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Г.А.Бутрым, героіка вайны — гэта толькі адзін з кампанентаў праграмы патрыятычнага выхавання, якая на самай справе складаецца са шматлікіх накірункаў. Канешне, узровень сённяшняга жыцця накладвае свой адбітак літаральна на ўсё, і выхоўваць дзяцей патрыётамі сваёй радзімы цяпер даволі складана. Але нам ёсць чым ганарыцца, і гэта абавязкова трэба ўлічваць і выкарыстоўваць у выхаваўчым працэсе.

Усцешна, што актывізуецца студэнцкі рух. Цікава праводзяцца зорныя паходы ў БДПУ імя М.Танка. Якраз у гэтыя дні праходзіць Рэспубліканскі студэнцкі турыстычны злёт, у якім прымаюць ўдзел каманды ВНУ краіны. Нягледзячы на складанасці жыцця і нізкі заробак многія педагогі распрацоўваюць свае аўтарскія праграмы ў галіне выхавання, а гэта значыць, што прыкладаюцца актыўныя намаганні ў выкананні галоўнага патрабавання рэформы. І выхаваўчы працэс набывае ўсё больш выразную асобасную афарбоўку.

Святлана СУБОЦІНА.

## На парадку дня — інфармацыйна-прапагандысцкая работа

### З чарговага пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі

***Сёлетні год багаты на падзеі ў грамадска-палітычным жыцці. Неўзабаве адбудзецца другі Усебеларускі народны сход, затым надыдзе II з'езд настаўнікаў, потым разгорнецца кампанія да прэзідэнцкіх выбараў. Усё гэта вымагае ажыўлення інфармацыйна-прапагандысцкай работы. І перш за ўсё — у сферы адукацыі. Натуральна, што гэта пытанне было вынесена на абмеркаванне калегіі Міністэрства адукацыі, пасяджэнне якой адбылося на мінулым тыдні, якраз напярэдадні першамайскіх святаў. З дакладам па ўзнятым пытанні выступіў намеснік міністра адукацыі Алег Слука. Ён падрабязна ахарактарызаваў стан інфармавання і лектарска-прапагандысцкай работы ў навучальных установах, спыніўся на шляхах яе ўдасканалення.***

Ва ўстановах адукацыі склалася пэўная сістэма інфармацыйна-прапагандысцкай работы, ствараюцца інфармацыйныя, інфармацыйна-метадычныя цэнтры, зазначыў дакладчык. У парадку аказання метадычнай дапамогі па падрыхтоўцы і правядзенні інфармацыйных, выхаваўчых і класных гадзін, іншых мерапрыемстваў выхаваўчай скіраванасці, удасканалення дзейнасці класных кіраўнікоў і куратараў вучэбных груп арганізоўваюцца семінары і інструктыўна-метадычныя нарады.

Для арганізацыі сістэмнага інфармавання педагагічных работнікаў і навучэнскай моладзі па асноўных накірунках унутранай і знешняй палітыкі, дзейнасці органаў дзяржаўнага кіравання і мясцовых органаў улады ў расклад заняткаў навучальных устаноў Беларусі ўключаны інфармацыйныя гадзіны, пры правядзенні якіх акцэнт робіцца на такія актыўныя формы ўзаемін, як "прэс-канферэнцыя", "свабодны мікрафон", "прэс-турнір" і інш.

З мэтай азнаямлення навучэнскай моладзі з асноўнымі пытаннямі ўнутранай і знешняй палітыкі Беларусі, падзеямі ў краінах бліжняга і далёкага замежжа ў навучальных установах традыцыйна праводзяцца адзіныя дні інфармавання.

У шэрагу навучальных устаноў арганізуюцца публічныя выступленні членаў урада і Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых органаў улады, грамадскіх арганізацый па асноўных пытаннях і напрамках сацыяльна-эканамічнай палітыкі.

Вядзецца работа па стварэнні лекторыяў, лектарскіх груп і груп інфарматараў, клубаў. Іх мэта — не толькі інфармаваць аб дзяржаўнай унутранай і знешняй палітыцы, але і вучыць моладзь аналізу бягучых падзей, стварэнню атмасферы псіхалагічнай раўнавагі, расшыраць інфармацыйнае поле навучэнцаў, выхоўваць у іх пачуццё грамадскага абавязку, законапаслухмянасці.

У навучальных установах Гродзенскай вобласці ствараюцца кіналекторыі для падлеткаў, работа якіх дапамагае маладым людзям правільна арыентавацца ў сучасных маладзёжных праблемах, даваць правільную ацэнку падзеям. Акрамя таго праводзяцца інфармацыйныя дні, на якіх закранаецца вельмі шырокі спектр пытанняў, звязаных з эканомікай, навукай, культурай, выхаваннем.

Асаблівая ўвага ў навучальных установах надаецца бібліятэкам як цэнтрам інфармацыйна-прапагандысцкай работы з навучэнцамі. У чытальных залах для арганізатараў інфармацыйна-прапагандысцкай работы афармляюцца і абнаўляюцца выставы і куткі, папкі метадычнай літаратуры, падбіраюцца тэматычныя бібліятэчкі, сцэнарныя распрацоўкі інфармацыйных гадзін і іншых матэрыялаў.

У Рэспубліканскім інстытуце прафесійнай адукацыі праводзяцца "круглыя сталы" па сацыяльнай палітыцы дзяржавы, абагульняецца вопыт па арганізацыі інфармацыйна-прапагандысцкай работы. На ўсіх патоках курсаў павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў уведзены дадатковыя курсы "Гісторыя Беларусі", "Сучасныя сацыяльна-палітычныя працэсы ў Рэспубліцы Беларусь", "Актуальныя праблемы сучаснай сацыяльнай дынамікі".

Пры арганізацыі інфармацыйна-прапагандысцкай работы выкарыстоўваецца патэнцыял маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку скаўцкіх арганізацый, Асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА, Асацыяцыі беларускіх гайдаў, Саюза "Сузор'е" і інш.

Многія з выступаючых на калегіі выказвалі заклапочанасць аб пераадоленні бездухоўнасці ў маладзёжным асяроддзі, аб неабходнасці ўсталявання высокамаральных узаемін, бо без гэтага немагчыма выхаванне ні грамадзянскасці, ні патрыятызму.

Прапагандысцкую работу важна напоўніць новым зместам, не адрываючыся ад жыццёвых рэалій, падкрэсліла ў сваім выступленні выкладчык Магілёўскага тэхнічнага ліцэя Таццяна Сёмкіна. У грамадзяніне неабходна бачыць перш за ўсё чалавека, народжанага для ўласнага шчасця, адказнага за сваю сям'ю, за сваю радзіму, які з павагай ставіцца да гісторыі свайго народа. Дзіця павінна ведаць сваю радаслоўную. Такая работа абуджае пачуцці дзіцяці.

У сваёй выхаваўчай рабоце, працягвала магілёўчанка, мы адмовіліся ад дыктату, лабавых метадаў уздзеяння, бо гэта поспеху не прыносіць. Мы прапануем дыялог, узаеміны, сумесны пошук ісціны. Вучым уменню самастойна рабіць аналіз мінулага і сучаснага, прывіваем любоў да Айчыны, знаёмім з яе гераічным мінулым і праблемным сённяшнім, праводзім гутаркі аб законапаслухмянасці.

Інфармацыйна - прапагандысцкая работа не павінна быць назойлівай, надакучлівай. Мы павінны выкарыстоўваць непрамыя, нефармальныя, ускосныя метады, якія, аднак, вельмі глыбока ўздзейнічаць на свядомасць, — лічыць выкладчык Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Ніна Вайнруб.

Побач са станоўчымі момантамі ў арганізацыі інфармацыйна-прапагандысцкай работы калегія звярнула ўвагу і на шэраг нявырашаных праблем. Гэта, у першую чаргу, недастатковая забяспечанасць навучальных устаноў метадычнымі матэрыяламі і распрацоўкамі.

Практыка нацэльвае на неабходнасць больш шырокага прыцягнення да прапагандысцкай работы лектараў таварыства "Веды", лідэраў маладзёжных грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў.

У некаторых навучальных установах, адзначыла калегія, яшчэ недастаткова актыўна арганізоўваюцца выступленні перад навучэнцамі, студэнтамі і педагагічнымі работнікамі членаў урада і Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікоў мясцовых органаў улады па пытаннях сацыяльна-эканамічнай палітыкі.

Адчуваюцца прабелы і ў выкананні мерапрыемстваў па ўдасканаленні інфармацыйна-прапагандысцкай работы ва ўстановах адукацыі, якія рэкамендаваны міністэрствам.

На неабходнасць актывізацыі інфармацыйна-прапагандысцкай, выхаваўчай работы ўказвае невысокая агульная палітычная культура навучэнскай моладзі, напружанасць маральна-псіхалагічнай атмасферы ў шэрагу навучальных устаноў, яшчэ дастаткова высокі ўзровень злачыннасці ў дзіцячым і маладзёжным асяроддзі.

Па абмеркаваным пытанні калегія прыняла адпаведную пастанову, якая скіравана на ўхіленне адзначаных недахопаў.

Культура міру

# Зберагчы спрадвечныя каштоўнасці

***Час, у які нам давялося жыць, называюць бязлітасным, бяздушным. Прага ўзбагачэння, хціўасць, канкурэнцыя і саперніцтва ахопліваюць значную частку нашага грамадства. Агрэсія, жорсткасць, насілле патокам ідуць з экранаў тэлевізараў, старонак друку і ўжо ўрываюцца ў наша рэальнае жыццё. Адыходзяць на другі план, страчваюцца спрадвечныя каштоўнасці: чалавечнасць, гуманізм, дабрыня, спачуванне, міласэрнасць.***

***Таму на зыходзе другога тысячагоддзя грамадскасць многіх краін загаварыла пра неабходнасць змяніць светапогляд хворага грамадства шляхам выхавання дзяцей і дарослых у духу культуры міру. Так была распрацавана праграма ЮНЕСКА “Культура міру”. ААН абвясціла 2001 — 2010 гады міжнародным дзесяцігоддзем культуры ненасілля і міру ў інтарэсах дзяцей планеты. Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендавала выхаванне вучняў у духу культуры міру як адзін з асноўных напрамкаў выхаваўчай работы ў сучасных умовах.***

Адны мае калегі, калі ўпершыню пачулі словазлучэнне “культура міру”, глыбакадумна заўважылі: “Та-а-к, гэта нядрэнная ідэя — знаёміць нашых дзяцей з культурай народаў свету”, іншыя паціскалі плячыма, толькі некаторыя спрабавалі высветліць сапраўдны сэнс гэтых слоў. А між тым у Дэкларацыі ААН аб культуры міру гаворыцца, што галоўная роля ў справе яе выхавання належыць, па-першае, палітыкам, па-другое — выкладчыкам, журналістам, прадстаўнікам іншых прафесій, чыя дзейнасць аказвае прамое ўздзеянне на розумы людзей.

Праграма “Культура міру” грунтуецца на культуры дэмакратыі, ненасілля і на культуры кіравання канфліктам. На апошнім складніку гэтай праграмы — культуры кіравання канфліктам — хачу спыніцца больш падрабязна.

У многіх краінах свету сёння шырока разгорнуты праграмы навучання правілам паводзін у канфлікце, кіравання канфліктам. Свой уклад у гэтую справу маглі б унесці і педагогі-псіхолагі, якія працуюць у сістэме адукацыі нашай краіны.

У навучальных установах сёння вывучаюць этыку, этыкет паводзінаў; уведзены факультатывы па прававым выхаванні, здаровым ладзе жыцця і інш. У якасці элементаў мадэлі фарміравання культуры міру ва ўстановах сістэмы адукацыі дазволю сабе прапанаваць: увядзенне ў вучэбныя праграмы факультатыва “Псіхалогія канфлікту” і семінарскіх і трэнінгавых заняткаў для педагогаў па кіраванні канфліктам.

Недахопу ў літаратуры, вучэбных дапаможніках цяпер няма. Напрыклад, у сваёй рабоце я карыстаюся матэрыяламі метадычнага дапаможніка “Псіхалогія канфлікту і спосабы яго вырашэння” (Ленінград, 1991 год), вучэбнага курса для падлеткаў Д. і Д.Лампен “Маладыя людзі кіруюць канфліктам” (Мінск, 1998 г.) і інш.

Напэўна, залішне абгрунтоўваць значэнне граматных паводзінаў у сітуацыі канфлікту — калі б ведалі людзі іх правілы, колькі службовых канфліктаў, сямейных трагедый можна было б пазбегнуць!

Аднак аб значэнні такой падрыхтоўкі для педагога варта сказаць асобна. Сама спецыфіка яго работы такая, што нервовая сістэма рэгулярна церпіць перагрузкі: складаныя, часта вострыя і канфліктныя, так званыя педагагічныя сітуацыі, магчымыя, як у любым іншым калектыве, няроўнасці ва ўзаемінах з калегамі; матэрыяльнае становішча, якое пакідае жадаць лепшага... Не гаворачы пра аплату асноўнай працы, заўважу, што педагог, на якога ўскладваецца асноўная надзея як на прапагандыста культуры міру, з’яўляецца таксама асобай, якая абавязана весці выхаваўчую работу ўвогуле яшчэ па 6-7 накірунках. Атрымлівае ж ён за гэтую работу чыста сімвалічную плату — у памеры адной “мінімалкі”. І часта аддача такой працы прама прапарцыянальная яе аплаце, г.зн. мінімальная. Не сакрэт, што многія педагогі хацелі б адмовіцца ад класнага кіраўніцтва. Нездарма ва ўжытку з’явіўся анекдот, добра зразумелы работнікам адукацыі: рабаўнік напаў на настаўніцу і патрабуе аддаць гадзіннік, на што яна адказвае: “Гадзіны не аддам, аддам класнае кіраўніцтва”.

Велічыня аплаты працы — паказчык яе каштоўнасці, неабходнасці грамадству. Не хацелася б думаць, што важнасць выхаваўчай работы з маладым пакаленнем толькі дэкларуецца адпаведнымі структурамі. Канешне, работа гэтая вядзецца, але трымаецца яна на энтузіязме настаўнікаў і іх неабыякавасці да дзяцей.

Педагог выхоўвае, як вядома, не толькі словамі, але пераважна ўчынкамі, уласнымі паводзінамі. Раздражняльнаму, запальчываму, злому чалавеку практычна няма сэнсу займацца выхаваннем культуры міру, як, дарэчы, і ўвогуле працаваць у навучальнай установе, бо адсутнасць эмацыянальнай устойлівасці — проціпаказанне для педагагічнай прафесіі. Нястрыманасць педагога выклікае азлобленасць і насмешкі вучняў; залішняя раздражняльнасць — нервовасць і недавер; грубасць — таксама грубасць, непрыязнасць, злосць і нават нянавісць; крык — страх, стрэсы, дэпрэсіі. Нецярпімасць да думак, меркаванняў вучняў парушае кантакт з імі, вядзе да байкоту патрабаванняў настаўніка.

Толькі настаўнік, які валодае належнай псіхалагічнай культурай, у стане перадаць яе вучням. Такім чынам, авалоданне педагогам тэхнікай паводзінаў у канфлікце будзе не толькі спрыяць умацаванню яго псіхічнага здароўя, але стане і важным момантам у справе выхавання культуры міру.

У перыядычным друку час ад часу з’яўляюцца матэрыялы, прысвечаныя тэме ўзаемінаў, парады, як правільна паводзіць сябе ў канфлікце. З той жа мэтай дазволю сабе прывесці адну з прытчаў, якія выкарыстоўваюць у сваёй рабоце прадстаўнікі школы пазітыўнай псіхатэрапіі Пезешкіана.

“У садзе падышаха гуляў паўлін. Ён распусціў свой хвост і горда крочыў па цудоўнай ізумруднай траве. А на агароджы сада сядзела варона. Глядзела яна, глядзела на паўліна, а потым як закрычыць: ”Ка-а-рр! Ганьба!! Хто пусціў гэтую брыдкую птушку ў сад падышаха?! Паглядзіце, якія ў яе непрыгожыя, агідныя ногі!!!” — На што паўлін адказаў: “Эх, варона, варона... Так, у мяне непрыгожыя ногі, гэта правільна. Але чаму ж ты не гаворыш аб тым, які ў мяне прыгожы хвост?!”

Паважаныя калегі! Я жадаю вам у любой канфліктнай сітуацыі заўсёды памятаць пра цудоўныя “хвасты” вашых выхаванцаў, вашых супрацоўнікаў, вашых блізкіх. І няхай у гэтым дапаможа вам вывучэнне і авалоданне тэхнікай паводзінаў у канфлікце. Канешне, нават пры выкарыстанні добрых метадаў кіравання канфліктам вынік не заўсёды будзе паспяховым. Але шанцы на поспех павялічацца, і працэс абавязкова будзе накіраваны на паляпшэнне сітуацыі.

**Ганна НЯМІРА,**
**педагог-псіхолаг магілёўскага Вышэйшага прафесійнага агратэхнічнага вучылішча імя К.Арлоўскага.**

Незвычайны садок

# Выхаванцы — гэта маленькія пацыенты

Для ўсіх выхавацеляў, тыфлапедагогаў, лагапедаў і асабліва медыкаў дзіцячага садка № 353 Мінска галоўнае — гэта сістэматычная работа. У гэтую дашкольную, сапраўды медыцынскую ўстанову прымаюць дзяцей-інвалідаў па зроку, са слабым зрокам і звязанымі з ім захворваннямі. 75 працэнтаў хлопчыкаў і дзяўчынак з гэтага садка — вучні звычайных масавых школ. Татальна сляпых і дзетак са слабым зрокам навучаюць спецыяльнай грамаце па Брайлю...

— Дзетак мы прымаем у наш садок з двух год, — расказвае Валянціна Захараўна Рахленка, якая кіруе ўстановай вось ужо дванаццаты год. — Бацькам, звычайна гэта мамы, дазваляецца бываць і знаходзіцца ў групе разам са сваёй дачкой ці сынам. Асаблівую патрэбу ў гэтым маюць навічкі. Адлучэнне мамы, асабліва ў першыя дні, для малых — гэта сапраўды стрэс. Менавіта таму з дапамогай маці дзіця паступова прызвычайваецца, адаптуецца ў новым асяроддзі. Акрамя таго, самім бацькам падчас знаходжання ў групе ёсць чаму павучыцца ў выхавацеляў, тыфлапедагогаў (якія патрабаванні неабходна прад’яўляць да малога, як вучыць, якія праводзіць заняткі).

Сляпыя дзеткі ні на хвіліну не перастаюць быць дзецьмі. Яны таксама любяць пабегаць, падурэць, у штосьці згуляць, корпацца на вуліцы ў пяску... Яны нічым не адрозніваюцца ад сваіх равеснікаў, хіба толькі станам здароўя. А паслухалі б вы, як яны спяваюць! Магчыма, “кульгае” каардынацыя рухаў, неабходная для бездакорнага выканання танцаў, аднак ад нязграбнасці падчас танца своечасова выратоўваюць маленькія сябры, якія хоць дрэнна, але бачаць. Для ўсіх гэтых дзетак характэрна ўзаемадапамога. Бо пачуццё спагады, шчырае жаданне прыйсці на дапамогу выхоўваецца ў гэтых малых амаль з пялёнак.

Наша грамадства яшчэ не падрыхтавана да знаходжання хворых дзетак сярод нармальных, у звычайных школах. Здаровых дзяцей палохае сутыкненне з сумным бокам нашай рэчаіснасці. Можа, недзе падсвядома яны імкнуцца (часта разам з бацькамі) адмежаваць сябе ад “іх”.

Канешне, існуе два бакі гэтай праблемы. Сёння шмат робіцца і словам, і справай для абароны правоў хворых дзетак. Але хто возьмецца абараніць здаровых хлопчыкаў і дзяўчынак ад неадэкватных паводзін “не такіх” іх равеснікаў падчас урокаў у школе? Відавочна, ёсць неабходнасць у стварэнні асобных спецыяльных праграм па навучанні дзяцей з фізічнымі недахопамі і да таго ж неадэкватнымі паводзінамі.

Татальна сляпыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія наведваюць спецыяльны садок, патрабуюць не толькі медыцынскай дапамогі, увагі, іх спачування, але і правільнага выхавання. Зразумела, іх шкадуюць, аднак абавязкова неабходнымі ў дачыненні да іх з’яўляюцца звычайныя патрабаванні, якія не дазваляюць малым вырасці бездапаможнымі. Выхавацелі, тыфлапедагогі не толькі працуюць з кожнай маленькай асобай, але і навучаюць бацькоў. Сумеснае ўзаемадапаўненне, канешне, толькі на карысць, спрыяе нармальнаму развіццю кожнага хлопчыка і дзяўчынкі.

Тамара Канстанцінаўна Пенза (урач-афтальмолаг) і чатыры медсястры займаюцца карэкцыяй зроку, тыфлапедагогі аказваюць дапамогу дзеткам праз педагагічныя метады, праводзячы сваю работу паралельна з медыкамі.

— Усе ў садку займаюцца сваёй справай на поўную моц. Гэта сумленныя, вопытныя жанчыны, — гаворыць Валянціна Захараўна. — Пра кожную з іх можна шмат расказаць. Напрыклад, Элеанора Фларыянаўна Ладуцкая — настаўніца-дыфектолаг. Шмат год адпрацавала выхавацелем, потым скончыла дэфекталагічны факультэт педагагічнага універсітэта імя М.Танка і стала займацца выкладаннем. У яе ўсё раскладзена літаральна па палічках, кожныя заняткі, праведзеныя Элеанорай Фларыянаўнай, — значны крок наперад у развіцці дзіцяці. Ці Ніна Антонаўна Несцяровіч — выхавацель і проста цудоўны, шчыры чалавек... У садку вядзецца настолькі добрая падрыхтоўка малых да школы, што адпадае неабходнасць вучыцца ў першым класе. Нашы дзеткі ўжо чытаюць, хоць установа павінна пазнаёміць іх толькі з адзінаццацю літарамі алфавіта...

Усе мае калегі працуюць стабільна. Проста прыйсці і адседзець працоўны дзень — такога няма. Веды дзецям даюцца сістэмна. Калі я пішу загады аб прэміяванні за добрасумленную працу, лаўлю сябе на думцы, што вартыя ўсе...

Усе дзетсадаўскія супрацоўнікі прызвычаіліся да дэмакратычнага стылю паводзін на рабоце. Яны прыходзяць у кабінет загадчыцы проста, не заўсёды па справе, а каб пагутарыць, атрымаць параду. Тут пануюць толькі добразычлівыя адносіны. Аднак калі В.З.Рахленка лічыць неабходным штосьці патрабаваць, то робіць гэта з усёй строгасцю загадчыцы, ведаючы, што кантраляваць калегу зусім не абавязкова. Лепш, напрыклад, проста пагаварыць з дзецьмі. Дарэчы, гэта любімы занятак Валянціны Захараўны. Малыя і пра маму з татам раскажуць, і пра бабулю, і ў якія гульні гулялі з выхавальніцай, чым займаліся на занятках... А па іх словах можна смела меркаваць пра работу калег, вынікі працы якіх цалкам задавальняюць.

Тое, што выхавацелі, педагогі дзіцячага садка № 353 — людзі творчыя, сумнявацца не даводзіцца. Дастаткова зайсці падчас правядзення любых заняткаў у групы. Па словах Людмілы Ягораўны Марозавай, старшага выкладчыка кафедры тыфлапедагогікі і сацыяльнай педагогікі БДПУ імя М.Танка, студэнты якога ўжо не першы год практыкуюцца ў садку, рукамі супрацоўнікаў дзіцячай установы напрацавана столькі матэрыялу, што можна толькі здзіўляцца. Колькі сіл, часу і творчасці пакладзена на падрыхтоўку малюнкаў, цацак, гульняў!

— Добрую справу робяць работнікі дзіцячага садка, — гаворыць Л.Я.Марозава. — Яны — сапраўдныя спецыялісты. Тое, што яны робяць для дзяцей, заслугоўвае вялікай удзячнасці з боку ўсяго грамадства...

Нездарма ж пераймаць вопыт тыфлапедагогікі мінскіх спецыялістаў з’язджаюцца з Мазыра, Баранавічаў, Маладзечна. Наведваюцца і слухачы курсаў АПА, ГІУН, ды й выкладчыкі педуніверсітэта ўжо даўно лічацца ў садку сваімі людзьмі. 22 выхавацелі, 11 тыфлапедагогаў, 3 лагапеды (існуе праблема маўлення ў дзяцей), 2 музычныя работнікі, спецыялісты па фізічным выхаванні... — усе гэтыя людзі цалкам аддаюць сябе дзеткам, дапамагаюць ім стаць на ногі перад доўгім школьным жыццём, часта літаральна адкрываюць ім вочы. Няўжо гэтага мала?

У дзіцячым садку сёння больш дзяцей, чым ён павінен быў бы прымаць (147 чалавек). Але адмаўляць тут не прынята. “Хто ж, калі не мы?” — гавораць жанчыны. І кожны дзень пацвярджаюць на справе гатоўнасць брацца за работу, за любое, здавалася б, безнадзейнае і цяжкае дзіця. І іх намаганні даюць свой плён.

...Разам з Валянцінай Захараўнай выходжу ў двор, на вуліцу. Бачу, як гуляюць дзеці. Хлопчык, які не бачыць, спрабуе шпульнуць мячыкам у баскетбольнае кальцо. Побач з ім выхавальніца і аднагрупнікі.

...Раз кінуў, другі, трэці, нарэшце, мяч трапіў-такі ў патрэбнае месца. Бачылі б вы тую радасць, якая імгненна ўскалыхнула маленькіх балельшчыкаў, гонар за самога сябе ў гэтага хлопчыка.

— Я пацэліў, пацэліў! Вы бачылі? Я чатыры разы трапіў! — паўтараў Дзяніска, — нібы зноў і зноў пераконваючы сябе. А Святланка ўжо бегла даганяць мячык, які пакаціўся па траве, каб потым даць яго Дзянісу...

Зашчымела сэрца, скажу шчыра. Дзеці звычайныя? Дзеці незвычайныя, мне так падалося. Яны не такія, як усе. Яны, нават не ведаю, нейкія асаблівыя.

Асаблівыя сваімі акулярамі з заклееным адным шкельцам (каб трэніраваць лянівае вока), сваімі радасцямі і бедамі.

Можа, падалося?..

— Хочацца, каб хтосьці ўзяўся выпускаць нармальнае абсталяванне для двароў, — гаворыць тым часам В.З.Рахленка. — Каб яно было не толькі сучаснае, але і моцнае. Мясцовыя падлеткі, якія па вечарах заседжваюцца на тэрыторыі садка, бязлітасна псуюць, ламаюць столікі, лесвічкі, лавачкі, машынкі... Колькі ўжо разоў прасіла іх быць сумленнымі — не дапамагае. Яны забруджваюць тэрыторыю, б’юць бутэлькі. А ў мяне ж дзеткі не бачаць! Упадуць ручкамі, тварыкам у гэты бруд!

Выхавальніца пасадзіла кветкі. На другі ж дзень нібы танкамі хтосьці прайшоўся, зруйнавалі ўшчэнт, ніякіх цяпер кветак.

Дзеці жорсткія, бязлітасныя, нявыхаваныя. Я часам думаю, што мноства настаўнікаў у сярэдняй школе — не на карысць. Часта ўсе — гэта ніхто. Настаўнік павінен быць адзін. У Платона ён быў, у Сакрата, у якіх, у сваю чаргу, усё жыццё былі вучні... І навучаліся, і выхоўваліся ж.

Спрабавалі ратавацца з дапамогай вартаўнікоў. Дык аднаго — пабілі, а другія не вытрымлівалі і звальняліся. Даводзіцца весці барацьбу самім, а гэта цяжка. І справа не толькі ў нашым садку з яго праблемамі, бяда ж агульная...

У такіх вось умовах даводзіцца працаваць работнікам садка. У несупыннай барацьбе за здароўе дзяцей, іх зрок, веды, развіццё, змагацца і пакутаваць ад набегаў падлеткаў... Мо цяжэй, чым у звычайных дашкольных установах...

— У нас ёсць выхавацелі, якія прыязджаюць да нас у Серабранку з Паўднёвага Захаду, бо інакш не могуць. Прыкіпелі душой да роднай установы, не ўяўляюць жыцця без клопату пра бедных дзетак. Мне самой давялося ўзначальваць дзіцячы дом для разумова адсталых дзяцей. Я б і сёння ў ім працавала, калі б яго не перавялі ў другое месца. Таму ўсю сілу сваёй любові аддаю гэтым сваім дзеткам...

**Вольга ДУБОВІК.**

Класная гадзіна

"Я — за ўсё новае ў школьным жыцці!" **Фота Андрэя ШАЎЦОВА.**

Развіццёвае навучанне

# Дзіця дыхае паветрам творчасці

***По сістэме развіццёвага навучання я працую чацвёрты год. Працавала традыцыйна — падабалася. Паступова пачала прывыкаць да думкі, што добра працаваць па накатаным: усё ведаю, а што забыла — няцяжка ўспомніць. Вельмі любіла пісаць з вучнямі розныя творчыя работы. Атрымлівалася, напэўна. Многія задумы не змагла ажыццявіць — рамкі часавыя, праграмныя, нежаданне некаторых вучняў выконваць гэтыя, на мой погляд, вельмі цікавыя заданні... У гэтым сумбуры разабралася тады, калі пачала працаваць па сістэме развіццёвага навучання. Я зразумела, што ў мяне ёсць час, у дзяцей ёсць час і вялізнае жаданне тварыць.***

Ільянкоў сказаў: “Школа павінна вучыць мысліць!” Цудоўна. Цяпер я магу гэта зрабіць больш эфектыўна: выдатны матэрыял па чытанні, урокі развіцця мовы, курс “Рыторыка” дапамагаюць мне рэалізаваць многія задумы па развіцці творчага мыслення. У чацвёртым класе я ўбачыла, як вырасла мая малеча ў сваіх учынках і паводзінах. Як прыемна адчуваць у дасягненнях сваіх выхаванцаў хоць часцінку сваёй працы.

Аднойчы на ўроку пазакласнага чытання я не змагла схаваць слёзы радасці і задавальнення. Тэма была — “Навагодняе свята”. Я проста не перашкаджала дзецям весці ўрок. Цікавы матэрыял яны змаглі перапрацаваць і ўвасобіць у розных формах. Дзеці змаглі самі арганізаваць гульні, справаздачы Дзеда Мароза і Снягурачкі, дыяфільмы, выставу, музей, інтэрв’ю... Калі ж Антон П. выйшаў да дошкі з сур’ёзным выглядам, што ўжо рассмяшыла ўсіх (ён у нас комік), загаварыў словамі і голасам Б.Ельцына: “Зварот экспрэзідэнта Расійскай Федэрацыі да беларускага народа”, гэта было поўным сюрпрызам. Ён уразіў і ўзрадаваў мяне тым, што мне цяпер не трэба прыдумваць нейкія новыя формы прадстаўлення сваіх творчых работ, дзеці самі мяне могуць вучыць.

А ўсё пачыналася з дамашніх рэфлексій, складання чыстагаворак, азбук, кніжак-малышак...

Дазволю сабе паўтарыцца: дзіця дыхае паветрам творчасці, яно хоча маляваць, спяваць, сачыняць — трэба песціць гэтую здольнасць яго душы. Здаецца, мне гэта ўдалося. А ўдалося, напэўна, таму, што працаваць я стала па-іншаму: іншы стыль узаемін, іншае стаўленне да працы. І ў выніку з’явіліся агеньчыкі ў вачах дзяцей, на ўроках няма пустаты.

Некаторыя могуць сказаць, што дзеці проста выраслі і ўмеюць так працаваць і паводзіць сябе адпаведна свайму ўзросту. Але ж я ведаю, што дапамагло ім стаць такімі...

З болем у сэрцы думаю пра расставанне ў канцы навучальнага года. Згадваюцца словы дзяцей:

“Вашы сілы не былі дарэмнымі”, — гэта сур’ёзная Надзя.

“Я заўсёды буду ганарыцца сустрэчай з вамі”, — піша ветлівая Ксенія.

“Вы — супермадэль”, — пажартаваў Антон.

Аднак жыццё не спыняецца, з ім трэба ісці ў нагу. І няхай на шляху кожнага вучня сустрэнуцца таленавітыя, творчыя людзі, і яны зразумеюць адзін аднаго...

**Маргарыта РУДНІЦКАЯ,**
**настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 1 Слуцка.**

Конкурсы

# Дзе пульсуе творчая фантазія

На працягу двух гадоў у школах Першамайскага раёна Віцебска праходзіць конкурс “Школа года-2001", мэтай якога з’яўляецца стымуляванне даследчай і інавацыйнай дзейнасці настаўнікаў, актывізацыя эксперыментальнай работы і развіццё прафесійнага майстэрства і ініцыятывы кіраўнікоў школ і педагагічных калектываў увогуле.

Нядаўна ў рамках гэтага конкурсу прайшоў дзень творчасці сярэдняй школы №12. У гэты дзень гасцямі школы былі намеснікі дырэктараў школ вобласці — слухачы курсаў абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі.

Свята пачалося з візітоўкі школы, дзе ў тэатралізаваным паказе школы як храма навукі былі раскрыты асноўныя ідэі і напрамкі работы школы па аўтарскай праграме развіцця “Адзінства”, распрацаванай дырэктарам Л.А.Анціпавай і яго намеснікам В.В.Сафронавай.

У метадычнай панараме намеснікі дырэктара прадставілі інавацыйную дзейнасць школы па ўкараненні сучасных педтэхналогій, аўтарскіх праграм і падручнікаў. Госці мелі магчымасць убачыць, як метадычная работа педагогаў трансфармавалася ў навукова-метадычную і даследчую. На аснове сістэмна-мэтавага падыходу да кіравання і дыягностыкі навучальна-выхаваўчага працэсу ў школе створаны навукова-тэарэтычны і практычны вопыт па дыферэнцыяцыі навучання з выкарыстаннем модульнай тэхналогіі, тэхналогіі поўнага засваення, мадэлявання, тэорыі рашэння вынаходніцкіх задач, методык развіцця творчай фантазіі і інш.

Паказаныя ўрокі і пазакласныя мерапрыемствы сталі сапраўднай крыніцай метадычных ідэй і знаходак, педагагічнага майстэрства настаўнікаў пачатковай і старшай школ, садружнасці і сутворчасці вучняў, настаўнікаў і бацькоў. Педагогі прадэманстравалі нетрадыцыйныя формы ўрокаў, такія, як грамадскі агляд ведаў, інтэграваныя ўрокі (“Урок усмешкі і дабрыні”), літаратурная гасцёўня, прэзентацыя альманахаў “Сугучнасць муз”, “Разумнікі і разумніцы” і інш.

Усе мерапрыемствы мелі высокі выхаваўчы патэнцыял, апагеем якога з’явілася прэзентацыя школьнага музея “Бацькаўшчына”. Два гады педагагічны і вучнёўскі калектывы вялі пошукавую работу, збіралі экспанаты для музея, сустракаліся з заслужанымі людзьмі мікрараёна, удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны і вайны ў Афганістане, працавалі з архіўнымі дакументамі. Вынікам карпатлівай працы стала выдатная экспазіцыя, прысвечаная мікрараёну, у якім знаходзіцца школа.

Асобасна арыентаваны падыход да навучання і выхавання, работа з адоранымі дзецьмі, творчасць саміх настаўнікаў знайшлі адлюстраванне не толькі ў навучальна-выхаваўчай рабоце, але і ў цудоўнай выставе тэхнічнай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці: дзеючыя мадэлі ракет і караблёў, вышыўка гладдзю і крыжыкам, разьба па дрэве, вырабы з саломкі і лазы, вязанне шыдэлкам і спіцамі, пашыў мадэляў адзення вучнямі старшых класаў, вітражы, акварэль, графіка і інш.

**Раіса ШТЫКАВА,**
**загадчыца метадычнага кабінета Першамайскага аддзела адукацыі Віцебска.**

Семінары

# Надзённы клопат — эканоміка

***У нашай краіне праблема энергазберажэння ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Распрацавана канцэпцыя, прыняты Закон аб энергазберажэнні, створаны сістэма дзяржаўных праграм і рэспубліканская сістэма кіравання энергазберажэннем. Пастаўлена і вырашаецца задача стварэння комплекснай няспыннай сістэмы адукацыі ў галіне энергазберажэння — ад замацавання на падсвядомым узроўні ў дашкольным узросце навыкаў беражлівага стаўлення да электраэнергіі да падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спецыялістаў у адпаведнай сферы дзейнасці.***

Упраўленне адукацыі Гомельскага аблвыканкама надае належную ўвагу пытанням энергазберажэння. Дадзеная праблема абмяркоўваецца на нарадах, калегіях, арганізоўваюцца секцыі і семінары. У шэрагу прафесійна-тэхнічных вучылішчаў вобласці выкладаецца прадмет “Асновы эфектыўнага энергазберажэння” як прадмет па выбары ці як факультатыўны курс. У сувязі з недастатковасцю літаратуры, вучэбна-метадычнага забеспячэння названай дысцыпліны ўпраўленнем адукацыі разам з упраўленнем па наглядзе за рацыянальным выкарыстаннем цеплаэнергетычных рэсурсаў, вучэбна-метадычным цэнтрам прафадукацыі праведзены семінар-практыкум для работнікаў, якія адказваюць за энергакарыстанне, і інжынерна-педагагічных кадраў ПТВ (ВПВ) па тэме “Метадычнае і інфармацыйнае забеспячэнне прадмета”. Перадумовай арганізацыі такога мерапрыемства з’явілася неабходнасць энергаасветы ў пытаннях рацыянальнага выкарыстання энергарэсурсаў.

Адкрыў семінар Мікалай Сяргеевіч Анісім, начальнік прафтэхаддзела ўпраўлення адукацыі. Ён падкрэсліў важнасць тэмы, акцэнтаваў увагу прысутных на значнасці праблемы энергазберажэння рэсурсаў як глабальнай праблемы сучаснасці.

У рабоце семінара прыняў удзел Леанід Васільевіч Шанец, начальнік упраўлення па наглядзе за рацыянальным выкарыстаннем цеплаэнергетычных рэсурсаў. Ён у сваім выступленні адзначыў, што энергазберажэнне можна разглядаць як дадатковую крыніцу энергіі, бо ўкладзеныя ў яго сродкі акупляюцца, як правіла, на працягу 1-2 гадоў. Л.В.Шанец выказаў думку аб неабходнасці ўкаранення энергазберагальных тэхналогій у бюджэтнай сферы, у прыватнасці ў адукацыі, у выніку чаго з’яўляецца магчымасць зніжэння бюджэтнай датацыі на аплату энергарэсурсаў. А рэалізацыя адпаведнага энергазберагальнага комплексу мер у навучальных установах дасць магчымасць вырашыць шэраг сацыяльных праблем: асветленасці класных памяшканняў, захавання цеплавога рэжыму і інш.

Таццяна Фёдараўна Атрохава, начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела ўпраўлення адукацыі, сказала, што за мінулы год палепшаны цеплавы рэжым ва ўстановах адукацыі за кошт замены неэфектыўных чыгунных катлоў на больш эканамічныя стальныя; асветленасць рабочых месцаў вучняў — праз замену лямпачак напальвання на энергазберагальныя свяцільнікі. Падкрэсліла яна і неабходнасць стараннага вывучэння магчымасцяў матэрыяльна-тэхнічнай базы вучылішча з пункту гледжання пошуку шляхоў эканомнага расходавання энергарэсурсаў. Т.Ф.Атрохава інфармавала работнікаў ПТВ (ВПВ) аб маючым адбыцца абласным конкурсе творчых напрацовак навучэнцаў і выкладчыкаў па прадмеце “Асновы эфектыўнага энергазберажэння”, куды могуць уваходзіць метадычныя распрацоўкі, малюнкі, плакаты і г.д., паведаміла пра ўмовы і задачы правядзення конкурсу. Яна заўважыла, што ў мінулым навучальным годзе такі конкурс праводзіўся сярод вучняў школ і прынёс пэўныя вынікі.

Святлана Васільеўна Краўчук, начальнік аддзела ўпраўлення па наглядзе за рацыянальным выкарыстаннем цеплаэнергарэсурсаў, азнаёміла слухачоў семінара-практыкуму з навінкамі вучэбна-метадычнай літаратуры па энергазберажэнні, выдадзенай у 2000 годзе пад эгідай вучэбна-выставачнага цэнтра пры Дзяржаўным камітэце па энергазберажэнні і энергетычным наглядзе, з апошнімі нумарамі часопіса “Энергаэфектыўнасць”, раздала прысутным плакаты і падручнік Т.Г.Паспелавай “Асновы энергазберажэння”.

Перад работнікамі прафтэхадукацыі вобласці з адпаведнымі паведамленнямі выступілі І.Н.Амельяновіч, намеснік начальніка ўпраўлення па наглядзе за рацыянальным выкарыстаннем цеплаэнергарэсурсаў, іншыя спецыялісты названага ўпраўлення.

У працэсе работы семінара-практыкуму ўдзельнікі азнаёміліся з індывідуальным цеплавым пунктам, яго абсталяваннем і прынцыпамі работы, з тэхналогіяй цеплавой рэабілітацыі жылога дома.

Хацелася б адзначыць, што гэтае мерапрыемства было вельмі насычана інфармацыяй. Адбыўся абмен думкамі ў працэсе дыскусій, а гэта абавязкова акажа станоўчы ўплыў на арганізацыю работы ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах Гомельскай вобласці па выкарыстанні і зберажэнні энергарэсурсаў.

**Алена АЛЯКСЕЕНКА,**
**намеснік дырэктара Гомельскага абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафесійнай адукацыі.**

Ніхто не забыты

# Сябры ветэранаў

***Сёння на рахунку нашай школы шмат добрых спраў. Піянеры шэфствуюць над ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, працы, над настаўнікамі-пенсіянерамі. Дзеці, якія наведваюць ветэранаў, становяцца для іх не толькі памочнікамі, а і сябрамі сем’яў. Вучні сваёй прысутнасцю вяртаюць пажылога чалавека ў яго дзіцячыя і юнацкія ўспаміны. Знаходзячыся побач, дзеці заражаюць сваёй жыццярадаснасцю, не даюць застацца сам-насам са сваімі праблемамі. На справаздачны канцэрт “І помнит мир спасенный...”, які адбудзецца 7 мая 2001 года, школьнікі рыхтуюць фотавыставу “Ніхто не забыты, нішто не забыта...”, а таксама прэзентацыю інфарм-дайджэстаў “Па родных мясцінах” як вынік іх старраннай работы за год.***

Сваімі сіламі піянеры арганізавалі акцыю міласэрнасці “Абаронцам Айчыны прысвячаецца”, падчас якой яны добраўпарадкавалі воінскае пахаванне ў парку імя М.Горкага, наведалі музеі горада, сабралі матэрыялы аб працоўных і баявых подзвігах народа.

Акрамя гэтага, творчымі педагогамі нашай школы выпрацаваны педагагічныя рэкамендацыі па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 56-й гадавіны Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Дзень 9 мая стаў традыцыйным святам у кожнай навучальнай установе, на заводах і прадпрыемствах, у клубах і палацах культуры, у раёнах і гарадах. Святкаванне Дня Перамогі — гэта даніна тым, хто абараняў сваю Айчыну ў гады суровых выпрабаванняў, і правераная часам педагагічная традыцыя выхавання маладога пакалення.

На маю думку, у перыяд падрыхтоўкі і правядзення Дня Перамогі ў адукацыйных навучальных установах важна правесці канферэнцыі, педагагічныя чытанні па пытаннях грамадзянскага і ваенна-патрыятычнага выхавання вучняў, сустрэчы з ветэранамі вайны і Узброеных Сіл, урокі мужнасці, вечары-хлапечнікі “Если бы парни всей Земли...” і г.д.

У школе стала намнога цяплейшай атмасфера, у педагогаў і вучняў ёсць жаданне расці духоўна. Чалавек, які дакрануўся да праблемы выхавання патрыятызму і “захварэў” на яе, не можа ўжо апусціцца на былыя пазіцыі. Нашы дзеці сталі больш добрымі, лёгка ідуць на кантакт. Але калі мы хочам, каб дзіця заўтра ўзнялося на адну прыступку вышэй у сваім духоўным развіцці, настаўніку на гэтую прыступку трэба ўзняцца сёння.

**Андрэй КРУК,**
**намеснік дырэктара сярэдняй школы №33 Мінска.**

Раскажыце вучням

# "Псіхіка — рэч вельмі тонкая..."

*Напэўна, няма ніводнага чалавека, які б не сутыкаўся з дзейнасцю рознага кшталту сектаў на Беларусі. Так ужо атрымалася, што гэтая праблема разам з іншымі — наркаманіяй, алкагалізмам, СНІДам — стала ў апошні час прадметам многіх зваротаў і ў мінскі гарадскі Цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі сям'і пры Міністэрстве сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь. Пра гэта — размова нашага пазаштатнага карэспандэнта з кандыдатам псіхалагічных навук, дацэнтам, загадчыцай кафедры псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Надзеяй ЦЫРКУН.*

**— Надзея Аляксандраўна, ці часта да вас звяртаюцца за дапамогай пацярпелыя? І хто яны: бацькі ці іх дзеці?**

— Звяртаюцца бацькі. Тыя, хто непасрэдна трапіў у секту, да мяне не прыходзяць. Больш за тое, іх дзеянні становяцца неадэкватнымі, і любое запрашэнне да размовы ўспрымаецца імі як агрэсія супраць іх. На самай справе часта ў глыбіні іх канфлікту з навакольным светам ляжыць не рэлігійны матыў, а псіхалагічны. Гэтыя людзі знаходзяцца ў стадыі звычайнага замбіравання...

Напрыклад, адна дзяўчына трапіла ў абшчыну, лідэры якой пэўным чынам уздзейнічалі на псіхіку людзей — з мэтай узбагачэння. Дайшло да таго, што яна з нажом кідалася на маці... Гэта — неадэкватныя паводзіны, і лечацца яны нават не псіхолагам, а псіхіятрам.

**— А як адбываецца замбіраванне? Напэўна, гэты працэс практычна непрыкметны...**

— Што такое ўвогуле замбіраванне? Гэта калі зменены каналы сувязі з навакольным светам. Чалавек ні на што не рэагуе. Ён можа на вас глядзець і не бачыць — быццам вас няма.

Такога стану можна дасягнуць, калі разбурыць ахоўныя механізмы псіхікі. Гэта, калі прафесійна валодаць навыкамі, можна лёгка зрабіць за пяць хвілін. Словам, рухам, нават поглядам можна ўкараніць у свядомасць суразмоўцы пэўную думку — і ён пачынае губляць арыентацыю. Чалавек не знаходзіць унутры сябе апоры. Ён ужо не можа сказаць, ёсць у яго ўласная думка ці не, і ў гэты момант яму ўнушаюць іншы парадак слоў, жаданняў, маральных каштоўнасцей.

**— Увогуле лічыцца, што чалавек з цвёрдай воляй, перакананнямі не можа папасціся на хітрыкі сектантаў. Значыць, ахвяры — гэта тыя, каму ў дзяцінстве ні ў сям'і, ні ў школе не далі пэўнага набору ведаў, не папярэдзілі пра небяспеку?**

— Кожны чалавек адчувае патрэбнасць клапаціцца пра каго-небудзь, кахаць і быць каханым, быць патрэбным камусьці... І калі ён не знаходзіць гэтага ўзаемаразумення, то ён пакутуе, у гэты момант яго псіхалагічны стан слабы. Так, у яго ёсць жонка, дзеці, маці, бацька. Але яму здаецца, што гэтага недастаткова. І ў выніку ён знаходзіць месца, дзе ёсць аднадумцы, група падтрымкі — па нейкіх прычынах такія ж адрынутыя ў сям'і і грамадстве людзі.

**— А можа гэта добра, што хтосьці можа падтрымаць у цяжкую хвіліну?**

— Гэта добра, калі не выкарыстоўваецца на шкоду. Але як гэта вызначыць? Наогул, калі ёсць неабходнасць ва ўзаемінах, то лепш схадзіць да звычайнага псіхолага ці сацыяльнага педагога ў звычайную сярэднюю школу. Ён, можа, і не вырашыць набалелыя пытанні, але не нашкодзіць у той ступені, у якой могуць нашкодзіць іншыя людзі.

Псіхіка — рэч вельмі тонкая, яе параніць даволі проста. Кожны павінен быць псіхалагічна пісьменным, не паддавацца на маніпуляцыі. А то атрымліваецца: чалавек лічыць, што ён духоўна ўздымаецца, далучаецца да спрадвечных каштоўнасцей, а на самай справе лідэр секты яго проста выкарыстоўвае ў сваіх карыслівых мэтах.

**— Надзея Аляксандраўна, вашыя кліенты давалі вам назвы сект ці абшчын?**

— Практычна ніколі. І не таму, што яны гэта ўтойваюць. Проста часта секты маскіруюцца пад звычайныя семінары і трэнінгі. Але калі туды ўключаецца яшчэ рэлігійная ідэя, то чалавек становіцца проста фанатычным. У гэтым выпадку ў яго ўвесь свет дзеліцца на дзве часткі: на тых, хто верыць, і хто не верыць. Апошнія — гэта ворагі.

**— Як увогуле, па вашых назіраннях, выглядаюць людзі, якія апынуліся ў секце?**

— Іх звычайны стан — замкнутасць, аддаленне ад рэальных праблем, разрыў кантактаў з блізкімі людзьмі. Да іх немагчыма знайсці падыход ні словамі, ні пяшчотай, быццам чалавек перастае чуць, бачыць.

**— Ці не звярталіся да вас людзі, якія пацярпелі ад каталіцкай ці праваслаўнай веры?**

— Не, з традыцыйнымі рэлігіямі такіх праблем няма. У іх ёсць тое, што адрознівае ад сектантаў, — верацярпімасць, жаданне зразумець і дапамагчы блізкаму чалавеку не за ўзнагароду.

**— Ці можа, у гэтым выпадку, каталіцкі ці праваслаўны святар прынесці выратаванне?**

— Адзін мой пацыент аднойчы сказаў, што хадзіў і да святара, і да псіхолага — і той, і другі сказалі яму адно і тое ж. Напэўна, гэта так. Таму, калі ў чалавека стаіць пытанне жыцця і смерці, лепш пайсці ў царкву ці касцёл. Можа, ён пачуе патрэбнае яму слова, якое накіруе плынь яго жыцця на правільны шлях. Няхай кожны шукае апору, як можа, — у гэтым і заключаецца свабода сумлення.

**Гутарыў Ігар КАНДРАЛЬ.**

# Агульныя рысы некаторых дэструктыўных рэлігійных арганізацый

Прэтэнзіі на "харызматычнае" лідэрства (ад "харызма" — натхненне з неба, гэта значыць абвяшчэнне боскасці ці асаблівай мудрасці і патрабаванне беспярэчнай згоды з уладай і прывілеяй).

Прэтэнзіі на ісціну ў апошняй інстанцыі, поўная непрымальнасць ці, прынамсі, спагадліва-зняважлівае стаўленне да традыцыйных рэлігій і нацыянальна-духоўных каштоўнасцей (у "Белым братстве", напрыклад, адэптам унушаюцца перакананне, што ў юсмаліян няма радзімы).

Знешняя добрапрыстойнасць: усе культавыя новаўтварэнні абвяшчаюць толькі самыя добрыя мэты.

Эзатэрычнасць (утойванне сапраўдных мэтаў і наступстваў сваёй дзейнасці, наяўнасць дактрын для ўнутранага ўжывання і знешняга наваколля) і жорсткая ізаляцыя сваіх адэптаў ад доступу іншай інфармацыі.

Мэтанакіраванае скажэнне свяшчэнных тэкстаў з іх "падгонкай" пад свае догмы.

Прымяненне тэхнік кантролю свядомасці для стварэння ў адэптаў культавага менталітэту, якія зводзяцца да наступнага:

фарміруецца ў той ці іншай форме перакананне, што "мэты апраўдваюць сродкі" і што любое дзеянне прымальнае да такой ступені, да якой яно спрыяе мэтам групы;

фарміруецца таталітарнае светаўспрыманне (сіндром "мы/яны", "культ — добры, свет па за культам — дрэнны"), якое прыводзіць да перавагі групавых ідэй над індывідуальнымі і да адабрэння (апраўдання) амаральных паводзінаў пры прэтэнзіях на дабро, укараненне перакання, што групавая воля вышэйшая за індывідуальную;

прывіваюцца рознага тыпу фобіі (страхі);

ствараецца прамая і скрытая залежнасць (псіхалагічная, фізічная ці фінансавая);

падтрымліваецца элітарная ментальнасць.

Карыслівы і палітычны інтарэс эліты секты, імкненне мець сваіх агентаў ва ўладных структурах. Актыўныя спробы пранікнення ў дзяржаўныя ўладныя структуры.

Выкарыстанне спецыяльнага слоўніка "ключавых слоў", якія маюць асаблівае, выключнае значэнне для культыстаў і незразумелыя для непаінфармаваных ("культавая мова"). Лідэры культаў разумеюць, што той, хто кантралюе мову чалавека, кантралюе і яго думкі. Дарэчы, цесная сувязь паміж маніпуляваннем мовай і кантролем над мысленнем была прадказана яшчэ Оруэлам у яго рамане "1984".

# Калі вашы шляхі перакрыжаваліся...

У жыцці здараецца рознае, і ніхто з нас не застрахаваны ад сустрэчы з прадстаўнікамі якой-небудзь сектанцкай плыні. Таму важна ўспрыняць гэта як відавочны факт і паспрабаваць ацаніць свае магчымасці процістаяць націску "культу".

Такім чынам, калі вы пазнаёміліся з нейкім "суперэкстралекарам" і адчуваеце зусім незвычайныя радасныя эмоцыі, прыўзняты настрой, радасць, якая паступова пераходзіць у экзальтацыю, гордасць ад прыналежнасці да чагосьці вельмі важнага і непераадольнае жаданне падзяліцца з блізкімі людзьмі гэтым вельмі-вельмі важным, то паспрабуйце зразумець: на вас зроблена ўздзеянне, якое носіць назву "сугестыя".

Сугестыя і гіпноз з'яўляюцца ўнушэннем, праграмаваннем псіхікі ці арганізма ўвогуле праз мозг намаганнямі волі іншага чалавека.

Сугестыю (гіпноз) дзеляць на прамую і непрамую. Прамым гіпнозам з'яўляецца дзеянне, калі чалавеку непасрэдна ўнушаюць лад думак, імідж (стыль паводзінаў, манер, знешняга выгляду, мовы), пры гэтым дзеянні робіцца акцэнт, што гэта — унушэнне, кадзіроўка.

Непрамой сугестыяй называецца дзеянне, калі тое ж, што і ў першым варыянце, унушаюць паступова, ненадакучліва і прапануюць прыняць тое, што ўнушаецца, як уласныя думкі, жаданні, намеры.

У выніку прамой і непрамой сугестыі чалавек пазбаўляецца свабоды думак, свабоды дзеянняў, свабоды праяўлення волі і прыняцця рашэнняў і падпарадкоўваецца намаганням волі таго, хто ўздзейнічае. Права на свабоду волевыяўлення узурпіруецца, прыгнятаецца.

Адна з галоўных адметных рысаў чалавека, які падпаў пад такую апрацоўку, — немагчымасць аб'ектыўна меркаваць аб падзеях, уяўленні пра якія былі яму насільна навязаны.

Настойліва рэкамендуецца:

* не спрабаваць канцэнтравацца на ўспамінах пра сустрэчу і спробах зразумець паказаныя "цуды" і незвычайныя для вас трукі;

* калі вы ўжо ўдзельнічалі ў сумесных і індывідуальных медытацыях, сеансах, трэнінгах і гэтак далей, не спрабуйце аднавіць у памяці незвычайныя рытуалы і станы;

* паспрабуйце на два-тры тыдні, нават калі вам не хочацца гэтага, спыніць усялякія кантакты як з кіраўнікамі суполкі, у якую вы трапілі, так і з яе шараговымі членамі;

* адпачывайце, як толькі зможаце: адпачынак на прыродзе, турызм, фізічная праца, тэатр, усе віды спорту — спрабуйце новае і цікавае;

* наведайце праваслаўную царкву, нават калі вы ніколі ў ёй не бывалі. Не спрабуйце там з кім-небудзь размаўляць, проста наведайце.

Калі, на шчасце для вас, радасць паступова праходзіць, саступаючы месца аб'ектыўнаму стаўленню, часта — здзіўленню і расчараванню ў "суперлекары", то можаце ўздыхнуць з палёгкай: вы пазбавіліся ад вялізнай колькасці непрыемнасцей як для сябе асабіста, так і для сваёй сям'і.

**Падрыхтаваў Ігар КАНДРАЛЬ.**

Прафесійна-тэхнічная адукацыя

# Вытокі поспеху

Свядомае, творчае стаўленне да працы заўсёды было вытокам поспеху ў любым відзе чалавечай дзейнасці. Здольнасць да творчасці можна выхоўваць і развіваць — гэта ісціна пацверджана вопытам лепшых педагогаў. Такое ж патрабаванне і да сённяшняй школы: агульнаадукацыйнай, прафесійнай, вышэйшай.

Вытворчасці патрэбны не проста рабочыя — носьбіты пэўнай сумы прафесійных і агульнаадукацыйных ведаў, а рабочыя з наватарскім мысленнем, здольныя паўплываць на ход навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Майстар вытворчага навучання, які працуе творча, — безумоўна наватар, які пастаянна імкнецца да ўдасканалення старых і распрацоўкі больш эфектыўных форм, метадаў і прыёмаў вучэбна-выхаваўчай работы. Гэта чалавек, які ўмее сфармуляваць творчую задачу для навучэнцаў, актыўна ўключаць іх у самастойную дзейнасць; ён бачыць сваю мэту не толькі ва ўзбагачэнні навучэнцаў ведамі, уменнямі і навыкамі, але і ў выяўленні і развіцці іх здольнасцей, падрыхтоўцы да прафесійнай працы.

Для якаснай падрыхтоўкі рабочых высокай кваліфікацыі ў вучылішчы № 138 Магілёва з дапамогай базавага прадпрыемства створана неабходная вучэбна-матэрыяльная база. Вялікая ўвага ўдзяляецца тэхнічнай творчасці, рацыяналізатарскай дзейнасці, што дапамагае навучэнцам лепш авалодваць прафесіяй, фарміруе творчае стаўленне да працы, развівае канструктарскія здольнасці, выхоўвае працавітасць.

Выявіць навучэнцаў, здольных да творчасці, не так ужо і лёгка. Гэта магчыма толькі ў працэсе навучання, пры індывідуальным падыходзе і супрацоўніцтве майстра з навучэнцамі на ўроках вытворчага навучання, арганізацыі самастойнай дзейнасці, веры ў творчыя магчымасці выхаванцаў, прымяненні майстрам метадаў заахвочвання, творчым клімаце ў навучальнай установе і ў прызнанні навучэнцамі майстра як узору творчай асобы. Я думаю, што ўсе майстры вытворчага навучання, знаёмячыся з новымі навучэнцамі, цікавяцца, што яны ўмеюць рабіць, чым захапляюцца. Зыходзячы з гэтага ўжо можна развіваць далей іх здольнасці на ўроках вытворчага навучання, конкурсах, у гуртках і г.д.

У нашым вучылішчы ў кожнай групе пад кіраўніцтвам майстроў вытворчага навучання дзейнічаюць гурткі тэхнічнай і мастацкай творчасці. Заняткі ў іх будуюцца такім чынам, каб навучэнцы ўсвядомілі, што творчасць — гэта вынік сістэматычнай працы, арганізаванасці і самадысцыпліны.

У гуртках разам з навучэнцамі распрацоўваем мадэлі, робім замалёўкі, выраблаем лекалы. Група навучэнцаў дзеліцца на брыгады. Я прапаную (або падлеткі самастойна выбіраюць) заданні для выканання. Мая задача заключаецца ў тым, каб аказаць дапамогу ў паслядоўнасці выканання. Але асноўную работу навучэнцы выконваюць самі. Тут яны маюць магчымасць у поўнай меры праявіць свае веды і ўменні і ў канчатковым выніку — адчуць радасць свайго поспеху.

Выраб разнастайных сувеніраў, пано, альбомаў для трэніровачнага перыяду, узоры ў мініяцюры, наглядныя дапаможнікі з розных матэрыялаў робяць пераважна на першым курсе навучання, таму што навучэнцы могуць паказаць тое, што яны ўмеюць рабіць самі. У далейшым у працэсе навучання прафесіі нашы выхаванцы набываюць спецыяльныя веды, уменні і навыкі. І свае творчыя здольнасці яны могуць паказаць на больш высокім узроўні пры вырабе складанай канструкцыі з розных матэрыялаў.

Праявіць свае здольнасці ў вучылішчы можна і на розных мерапрыемствах: "Ану, дзяўчаты" — конкурс кемлівых, эрудзіраваных, энергічных; "Візітная картка групы" — конкурс сярод навучэнцаў вучылішча; "Лепшы па прафесіі" — прафесійны конкурс сярод лепшых навучэнцаў групы па выяўленні прафесійнага лідэра; "Паркалёвы баль" — конкурс па вырабе летняй сукенкі і касцюма з паркалёвага матэрыялу; "Міс школы" — конкурс паміж класамі школы, дзе можна ўбачыць усебакова развітых, таленавітых, разумных, інтэлектуальных і, канешне, абаяльных і прыгожых дзяўчат і інш.

Я перакананa, што паспяховасць сацыяльна-эканамічнага развіцця нашага грамадства знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад творчых здольнасцей грамадзян.

**Вольга САЛАЎЁВА, майстар вытворчага навучання ПТВ № 138 Магілёва.**



Настаўнік фізічнага выхавання з амаль пяцідзесяцігадовым стажам работы ў сельскай школе вёскі Пакалюбічы Гомельскага раёна Мікалай Іванавіч Гутнікаў рыхтуецца адзначыць свой 70-гадовы юбілей. Тым не менш ён і сёння ў страі, з поспехам працягвае займацца са сваімі вучнямі. А метадычныя распрацоўкі выдатніка адукацыі Беларусі шырока выкарыстоўваюцца ў школах Гомельшчыны.

НА ЗДЫМКУ: Мікалай Іванавіч Гутнікаў сярод вучняў — удзельнікаў баскетбольнай секцыі.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

Педагагічная майстэрня

# "Свая гульня"

Інтэлектуальная гульня з біялагічным зместам праводзіцца па тых жа правілах, што і аднайменная тэлевізійная гульня.

Адначасова ў гульні ўдзельнічаюць тры гульцы (ці тры каманды). Права першага ходу разыгрываецца па жэрабі. Гулец называе тэму і "кошт" пытання. Вядучы зачытвае дадзенае пытанне. Калі гулец адказвае правільна, ён атрымлівае тую колькасць балаў, якая адпавядае "кошту" пытання, калі няправільна — штрафуецца на гэтую ж колькасць балаў. Калі выпадае "Свая гульня", гулец мае права паставіць на пытанне любую колькасць балаў з тых, што ён ужо зарабіў. Калі выпадае "Кот у мяшку", гулец перадае пытанне аднаму з сапернікаў. Можна для кожнага раунда адвесці пэўны час, напрыклад, 15 і 20 хвілін. Час на абмеркаванне адказу — 15 секунд. У раундзе "Свая гульня" ўдзельнікі маюць права паставіць на пытанне любую колькасць балаў з тых, якія яны зарабілі ў двух папярэдніх раундах. Гульцам даецца адна хвіліна на разважанне, свае адказы яны запісваюць на лістках паперы і аддаюць вядучаму. Перамагае той, хто набярэ найбольшую колькасць балаў.

## I. Сіні раунд

### Тэма: амфібіі

10. "Кот у мяшку". У вёсцы ёсць гадзіннік такі, не мёртвы, а жывы, ходзіць без заводу, птушынага роду (Пеўнік).

20. Для чаго ўжывалі індзейцы Паўднёвай Амерыкі ядавітых жаб-дрэвалазаў? (Выкарыстоўвалі ядавітую слізь для вырабу атручаных стрэлаў.)

30. Якую самую вялікую жабу называюць "маці ўсіх жаб"? (Жабу-галіяф.)

40. Самец зялёнай жабы ў шлюбны перыяд "спявае" быццам салавей. А як "спяваюць" самкі? (Самкі заўсёды маўчаць.)

50. Гіганцкая саламандра дасягае па масе 10 кг. А якая яе даўжыня? (150-160 см.)

### Тэма: альбіносы

10. Як называюць белых варон, соваў, арлоў, лісіц? (Альбіносы.)

20. Чым тлумачыцца наяўнасць у прыродзе белых аленяў, вавёрак, бакланаў і іншых жывёл? (Прыроджаная адсутнасць пігментацыі скуры.)

30. "Свая гульня". Якое павер'е існавала ў старажытных кітайцаў пра белых мышэй? (Іх лічылі пасланцамі шчасця.)

40. Якіх белых жывёл індзейцы лічылі свяшчэннымі? (Сланоў.)

50. "Кот у мяшку". Як звалі любімага каня Аляксандра Македонскага? (Буцэфал.)

### Тэма: падводны свет

10. З якой мэтай лаўцы губак крышаць іх на дробныя кавалачкі і раскідваюць у месцах, зручных для росту гэтых жывёлін? (З дробных часцінак вырастае новая вялікая губка.)

20. Навошта ў Старажытнай Грэцыі і Рыме выкарыстоўвалі губкі воіны? (Падкладвалі пад панцыры і шлемы).

30. Калоніі якіх жывёлін часта разрастаюцца на водарасцях ці камянях у выглядзе ажурных кусцікаў? (Паліпы).

40. "Свая гульня". Якая медуза выклікае балючыя апёкі, якія могуць суправаджацца кашлем і болем у руках і нагах? (Крыжавічок.)

50. Хоць харчовая каштоўнасць медуз невялікая, але ёсць рыбкі з арыгінальнай назвай, якія з вялікай ахвотай іх ядуць? Што гэта за рыбкі? (Мардскія сабачкі.)

### Тэма: вужы

10. У якога славутага рускага пісьменніка вужы свабодна поўзалі па сядзібе і ўсім забаранялася іх чапаць? (Льва Талстога.)

20. Якое павер'е аб вужах існавала ў старажытных славян? (Вужы прыносяць удачу.)

30. Які вуж з'яўляецца добрым рыбаловам? (Вадзяны вуж.)

40. Якога вужа ў Беларусі няправільна часам называюць змяёй? (Мядзянку.)

50. Змяя на эмблеме медыцыны адносіцца да сямейства вужовых. Як яна называецца? (Эскулапава змяя.)

## II. Чырвоны раунд

### Тэма: акварыум

20. Якіх жывёлін выкарыстоўваюць у акварыуме для ачысткі вады? (Бяззубак.)

40. "Кот у мяшку". Тэма: малпы (80 балаў). Як перакладаецца з лацінскай мовы слова "прыматы"? (Першынствуючыя.)

60. Як называюць вучоных, якія вывучаюць рыб? (Іхтыёлагамі.)

80. Якая маленькая жывародзячая рыбка ў акварыуме выконвае ролю прыбіральшчыцы: пастаянна саскрабае з усяго лісця смецце, водарасці? (Гупі.)

100. Чаму рэкамендуецца ў акварыуме мяняць не ўсю ваду, а толькі 1/5 частку вады ў тыдзень? (Так званая "старая вада" з выдзяленнямі раслін карысная для рыб.)

### Тэма: сабакі

20. "Свая гульня". Якога сабаку Дыяген лічыў сімвалам волі? (Бяздомнага бадзяжнага сабаку.)

40. Барон Манмарансі зацвердзіў ордэн Сабакі. Каго ім узнагароджвалі? (Самых адданых рыцараў.)

60. У якой дзяржаве, як лічыцца, больш чым дзе любяць сабак? (У Італіі: там іх 7 мільёнаў — па адным на кожную сям'ю.)

80. Якая самая лепшая і самая прыгожая з усіх барзых парод у свеце? (Руская псовая.)

100. Якія з сучасных сабак самыя вялікія? (Сенбернары.)

### Тэма: птушкі

20. У некаторых еўрапейскіх краінах, калі адбываецца гэтая падзея, над домам вывешваюць сцяг з відарысам белага бусла. Што гэта за падзея? (Нараджэнне дзіцяці.)

30. Слых у гэтай птушкі выдатны, але, тым не менш, яна завецца... (глушэц).

60. Сёння на Беларусі гэтых чорных птушак, занесеных у Чырвоную кнігу, усяго 250 пар. Што гэта за птушкі? (Чорныя буслы.)

80. Маленькая птушка, гуаціці, якая жыве ў Венесуэле, абвешвае дзеля бяспекі сваё жыллё скурамі гэтых жывёл. Што гэта за жывёлы? (Змеі.)

100. "Свая гульня". Ці існуе ў прыродзе "птушынае малако"? (Так, у пінгвінаў, галубоў.)

### Тэма: "самыя-самыя"

20. Самая вялізная з сучасных сухапутных жывёлін (Афрыканскі слон.)

40. Самае высокае млекакормячае? (Жыраф.)

60. Самае "гарластае" з усіх жывёлін? (Кракадзіл.)

80. "Кот у мяшку". У Італіі падчас вяселля багам ахвяруюць адну з гэтых жывёлін, а другое смажаць, упрыгожваюць ім стол. Што гэта за жывёліна? (Парася.)

100. Самы лепшы нырэц сярод птушак? (Імператарскі пінгвін.)

### Тэма: коні

20. Як завецца масць рыжаватых коней? (Саўрасая.)

40. Хто заснаваў і назваў горад у гонар свайго любімага каня? (Аляксандр Македонскі.)

60. Кім стаў конь Інцыатус па недарэчнай волі рымскага імператара Калігулы? (Сенатарам.)

80. Як завуцца аднапальцавыя продкі коней? (Палеагіпусы.)

100. "Кот у мяшку". Тэма: несправядлівае абвінавачанне (40 балаў). Гэтых жывёлін чамусьці лічаць узорам неразумнасці, хаця, на самай справе, яны вельмі разумныя, хоць і наравістыя. (Аслы.)

**Галіна КАПЕЦКАЯ, настаўніца гімназіі Светлагорска.**

Алімпіяды

# Пераможцы вызначаны

Алімпіяда вучняў педагагічных вучылішчаў і каледжаў краіны па гісторыі Беларусі закончылася рэспубліканскім турам у старажытнай Лідзе. У творчым спаборніцтве ўдзельнічалі прадстаўнікі 32 навучальных устаноў. Праграма сустрэчы прадугледжвала пісьмовую віктарыну, разважанне на гістарычную тэму, храналагічны каляндар (вусна) і пісьмовае тэсціраванне. Адметна, што заўтрашнія настаўнікі ў пераважнай большасці прадэманстравалі добрыя веды па ўсім курсе гісторыі Беларусі, майстэрства вуснага аповеду аб лёсаносных падзеях у жыцці роднага краю, уменне лагічна мысліць пры характарыстыцы гістарычнай мінуўшчыны. Так што вызначэнне пераможцаў было нялёгкім.

І вось пасля трох дзён работы журы падвяло вынікі алімпіяды. Першае месца прысуджана навучэнцу Гродзенскага педвучылішча Дзмітрыю Сківіцкаму. На другой прыступцы апынуліся Ганна Собаль з Пінскага педвучылішча і Алеся Долгая з педагагічнага каледжа № 2 Мінска. Трэцяга месца ўдастоіліся Алена Авіжэнь (Ліда), Ірына Пятрова (Полацк) і Аляксей Глечыкаў (Барысаў).

Гаспадары падрыхтавалі для гасцей змястоўную культурную праграму. Яны пагглядзелі канцэрт, пазнаёміліся з музеем адукацыі на Лідчыне, пабывалі на экскурсіі па Лідзе і на знакамітым шклозаводзе "Нёман" у Бярозаўцы. За гэта ўдзельнікі алімпіяды выказалі шчырую ўдзячнасць дырэктару Лідскага педвучылішча Наталлі Кудэрка, выкладчыку гэтай вучэльні Міхасю Мельніку, старшаму навуковаму супрацоўніку гісторыка-мастацкага музея Валерыю Сліўніку.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

Скажу добрае слова

# Адзначаны дабрачыннасць і спагада

На Лідчыне добра ведаюць Аліну Браніславаўну Грыневіч, намесніка загадчыка аддзела адукацыі райвыканкама. Шмат клопатаў у яе на гэтай адказнай пасадзе. І нямала турбот на іншай — старшыні раённай арганізацыі беларускага дзіцячага фонду, абавязкі якога прыветная і спагадлівая жанчына выконвае на грамадскіх пачатках. Вось ужо колькі гадоў клапоціцца А.Грыневіч аб матэрыяльнай дапамозе шматдзетным сем'ям, дзецям-інвалідам і сіротам, маламаёмным сем'ям.

Напярэдадні велікодных свят дабрачынная праца і міласэрнасць А.Грыневіч дастойна адзначана: ёй уручаны памятны знак "2000-годдзе Хрысціянства", устаноўлены нацыянальным аргкамітэтам па правядзенні знамянальнага юбілею.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

